 

# На службе ў чалавека

Недалёка ад Варшавы, у сасновым бары, раскінулася невялічкае мястэчка Сверк. Яшчэ зусім нядаўна мала хто ведаў аб ім у Польшчы, а цяпер Сверк вядомы ўсёй краіне. Крыху больш як два месяцы назад тут пачаў працаваць галоўны цэнтр ядзерных даследаванняў Польскай Акадэміі навук, які адкрыў вялікія перспектывы ў галіне мірнага выкарыстання атамнай энергіі ў Польшчы і шырокіх навукова-даследчых работ. Вось што расказвае ўпаўнаважаны ўрада па пытаннях выкарыстання ядзернай энергіі ў Польшчы В. Біліг:

Устаноўлены ў Сверку атамны рэактар, які паставіў нам Савецкі Саюз, з'яўляецца першым у Польшчы. Ён мае асаблівае значэнне, бо, як вядома, рэактар з'яўляецца асноўным элементам, самай галоўнай прыладай у практычным выкарыстанні ядзернай энергіі. Ён служыць перш за ўсё фізікам і хімікам для навукова-даследчых мэт. Акрамя таго, пры дапамозе гэтага рэактара прадугледжана вытворчасць радыёактыўных ізатопаў для прамысловасці і медыцыны. Новы рэактар мае для нас велізарнае значэнне і з таго пункту гледжання, што ён прадстаўляе сабой як бы пачатак вялікіх работ у галіне ядзернай энергетыкі.

Увядзеннем у эксплуатацыю атамнага рэактара закончылася першая чарга будаўніцтва галоўнага цэнтра ядзерных даследаванняў у Сверку. У бліжэйшыя гады ў гэтым цэнтры будуць узведзены іншыя збудаванні. Цяпер вядзецца будаўніцтва двух паскаральнікаў для навуковых мэт. Будуць пабудаваны таксама радыёхімічная лабараторыя, лабараторыя ядзернай энергетыкі, цэнтральныя электронныя майстэрні для вырабу мадэлей атамнага абсталявання і іншыя аб'екты. Сверк стане важнейшым навуковым цэнтрам у галіне мірнага ўжывання ядзернай энергіі.

У варшаўскім раёне Жэрань размешчан буйны навукова-даследчы цэнтр хіміі і ядзернай тэхналогіі. Ён аб'ядноўвае некалькі навуковых інстытутаў. Інстытут тэхналогіі рэактарных матэрыялаў вядзе ў лабараторных умовах даследаванні ў галіне вытворчасці урану. Працуюць таксама інстытут радыёхіміі і інстытут аналітычнай хіміі.

Другім важным цэнтрам ядзерных даследаванняў з'яўляецца кракаўскі. Буйнейшай устаноўкай гэтага цэнтра з'яўляецца цыклатрон, мантаж якога ўжо закончан.

У Кракаве ёсць таксама навукова-даследчы інстытут, які займаецца ў асноўным праблемамі касмічнага выпраменьвання. Шматгранная дзейнасць інстытута прыносіць вялікую дапамогу народнай гаспадарцы. Работнікі інстытута ўжываюць ізатопы ў розных галінах прамысловасці. Імі ж ужыт метад вымярэння радыяцыі ў горназдабываючай прамысловасці. Распрацаван таксама метад прафіліроўкі нафтавых шчылін, які мае вялікае значэнне пры адшуканні новых месцанараджэнняў. Новы метад ужо ўжываецца ў нафтавай прамысловасці. Цяпер укараняецца новы метад вымярэння радыёактыўнасці пры адшуканні залежаў калійных солей.

Вялікая ўвага ўдзяляецца падрыхтоўцы спецыялістаў у галіне мірнага выкарыстання атамнай энергіі. Пры горнаметалургічнай акадэміі ў Кракаве створана школа, у якой інжынеры — выпускнікі акадэміі праходзяць перападрыхтоўку і атрымліваюць веды ў галіне атамнай энергіі. Рыхтуецца да адкрыцця ў Варшаве вышэйшая школа па падрыхтоўцы спецыялістаў ядзернай энергіі. Дзесяткі спецыялістаў будуць падрыхтаваны ў Савецкім Саюзе.

У краіне створан інстытут ядзерных даследаванняў. Інстытут распрацаваў каля 100 навуковых работ з галіны атамнай энергіі. Праводзяцца важныя работы па расшырэнню сыравіннай базы.



*У польскіх вышэйшых навучальных установах вучыцца ў гэтым годзе каля 900 замежных студэнтаў з 27 краін. Найбольш іх ёсць у Варшаве. Толькі ў Палітэхніцы вучыцца 189 замежных студэнтаў.*

*На здымку: студэнты з Іярданіі і Судана вучацца на авіяфакультэце варшаўскай Палітэхнікі.*

*Фота — ЦАФ.*

# Маскоўскія нарады прадстаўнікоў камуністычных і рабочых партый маюць вялікае гістарычнае значэнне

Газета «Жэньмінь Жыбао» апублікавала артыкул «Новы этап у міжнародным камуністычным руху», прысвечаны гадавіне маскоўскіх нарад прадстаўнікоў камуністычных і рабочых партый і прынятым на іх дэкларацыі і маніфеста міру. У артыкуле гаворыцца, што гэтыя нарады і прынятыя на іх дакументы маюць вялікае гістарычнае значэнне. Цяпер, піша газета, калі мінула першая гадавіна маскоўскіх нарад і Маскоўскай дэкларацыі і маніфеста, зусім ясна, што яны фактычна сталі праграмай міжнароднага камуністычнага руху і адлюстроўваюць цвёрдую волю народаў абараніць мір, заклікаюць народы да згуртаванасці і яднання, прадухілення вайны і абароны міру. Пасля заканчэння гэтага года, піша «Жэньмінь Жыбао», людзі больш выразна заўважылі: гэтыя самыя вялікія па сваіх маштабах міжнародныя нарады камуністычных і рабочых партый пасля роспуску Камуністычнага інтэрнацыянала, заклаўшы новую ідэалагічную і палітычную аснову для адзінства міжнароднага камуністычнага руху, сапраўды адкрылі новы этап у міжнародным камуністычным руху.

Мінулы год, падкрэслівае газета, яшчэ раз прадэманстраваў яркі кантраст паміж працвітаючым лагерам сацыялізма і адцвітаючым лагерам імперыялізма. У першай палавіне гэтага года ў параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года валавая прадукцыя прамысловасці ЗША скарацілася на 10,8 працэнта, а ў Савецкім Саюзе ўзрасла на 10,5 працэнта. Прамысловая вытворчасць у Англіі пасля трохгадовага застою працягвае скарачацца, а прамысловая вытворчасць у КНР няспынна расце. У першай палавіне гэтага года ў параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года прамысловая вытворчасць у сацыялістычным лагеры ў сярэднім узрасла на 13 працэнтаў, а ў ЗША, Англіі, Францыі, Заходняй Германіі і Японіі ў сярэднім скарацілася на 4,6 працэнта. Удзельная вага прамысловай прадукцыі сацыялістычных краін у сусветнай прамысловай прадукцыі павялічыцца прыкладна з 33 працэнтаў у мінулым годзе да 38—40 працэнтаў у гэтым годзе.

У галіне навукі і тэхнікі, адзначае «Жэньмінь Жыбао», Савецкі Саюз перавысіў і будзе далей перавышаць ЗША. Трэці савецкі штучны спадарожнік Зямлі — аўтаматычная навуковая касмічная лабараторыя ў поўным сэнсе гэтага слова — працягвае палёт. Аднаступеньчатая геафізічная ракета, запушчаная ў другі раз у гэтым годзе ў Савецкім Саюзе, дасягнула 450-кіламетровай вышыні і дакладна вярнулася ў намечанае месца. ЗША могуць толькі ўздыхаць, гледзячы на неба. Гэтыя акалічнасці гавораць аб тым, што сацыялістычны лагер у мірным спаборніцтве бясспрэчна пераможа імперыялістычны лагер.

За гэты год сацыялістычны лагер, узначальваемы Савецкім Саюзам, у барацьбе за мір ва ўсім свеце і падтрымку руху за нацыянальную незалежнасць дабіўся велізарных перамог. А палітыцы агрэсіі і экспансіі, палітыцы «балансавання на грані вайны», праводзімай імперыялістычным блокам, асабліва амерыканскім імперыялізмам, быў нанесен цяжкі ўдар.

У гэтым годзе, працягвае «Жэньмінь Жыбао», камуністычныя і рабочыя партыі ўсіх краін сваёй нястомнай работай дабіліся яшчэ больш шырокага і магутнага разгортвання міжнароднага камуністычнага руху. Камуністычная партыя Савецкага Саюза дабілася вялікіх поспехаў у справе кіраўніцтва савецкім народам у камуністычным будаўніцтве і ўнесла выдатны ўклад у справу аб'яднання ўсіх міралюбівых сіл усяго свету. Антысавецкі паклёп сучасных рэвізіяністаў ні ў малейшай ступені не можа пашкодзіць вялікай Камуністычнай партыі Савецкага Саюза, якая з'яўляецца цэнтрам адзінства міжнароднага камуністычнага руху. Наадварот, КПСС карыстаецца яшчэ большым аўтарытэтам сярод працоўных усяго свету. XXI з'езд КПСС, да склікання якога КПСС вядзе актыўную падрыхтоўку, і натхняючыя сэрцы людзей кантрольныя лічбы развіцця народнай гаспадаркі Савецкага Саюза на 1959 — 1965 гг., якія будуць прыняты на гэтым з'ездзе, з'явяцца важнай вяхой у справе паскарэння камуністычнага будаўніцтва.

Спыніўшыся на поспехах, дасягнутых камуністычнымі і рабочымі партыямі сацыялістычных краін у справе мабілізацыі шырокіх народных мас на хутчэйшую пабудову сацыялізма, «Жэньмінь Жыбао» падкрэслівае ўзрастаючае з кожным днём значэнне камуністычных партый у розных краінах Еўропы, Азіі, Афрыкі і Амерыкі.

Нарады прадстаўнікоў камуністычных і рабочых партый у Маскве паклалі пачатак новаму этапу яшчэ большага росквіту міжнароднага камуністычнага руху, азнаменавалі вялікі пералом сусветнай палітычнай абстаноўкі, якая выяўляецца ў тым, што вецер з усходу пачаў пераважаць над ветрам захаду. Мір і сацыялізм, бясспрэчна, будуць і ў далейшым атрымліваць новыя і новыя перамогі.

*Дырэктывы XII Пленума ЦК ПАРП*

# Задачы ў галіне павелічэння вытворчасці прыватных сялянскіх гаспадарак і развіцця грамадскай ініцыятывы ў вёсцы

XII Пленум ЦК ПАРП у Дырэктывах па сельскай гаспадарцы падкрэслівае, што на працягу апошніх двух год створаны спрыяючыя ўмовы для далейшага развіцця вытворчасці сялянскіх гаспадарак. Аднак развіццё сялянскіх гаспадарак не павінна быць пушчана на самапас. Нельга ў гэтых адносінах разлічваць толькі на стыхійнае ўздзеянне эканамічных стымулаў, хаця яны вельмі важныя.

Побач з тымі стымуламі, якія дзейнічалі да гэтага часу, неабходна ўжываць цэлы шэраг іншых эканамічных і арганізацыйных сродкаў, каб павялічыць сельскагаспадарчую вытворчасць.

ЦК ПАРП прапануе наступныя сродкі:

1) Павялічыць уздзеянне дзяржавы на сельскагаспадарчую вытворчасць. Спалучаць гэтае ўздзеянне з далейшым развіццём і ўмацаваннем сялянскіх форм самакіравання. Уздзеянне дзяржавы на павелічэнне вытворчасці сельскай гаспадаркі павінна ісці па шляху павелічэння кантрактацыі, павелічэння крэдытаў сялянскім гаспадаркам для развіцця пэўных галін сельскагаспадарчай вытворчасці, па шляху дыферэнцыяцыі падаткаў у залежнасці ад патрэб сялянскіх гаспадарак, па шляху павелічэння колькасці школ з сельскагаспадарчай прафесіяй, затрымання працэсу драблення гаспадарак і г. д.

2) Прынятая форма развіцця розных родаў сельскагаспадарчых кааперацый аказалася правільнай, і таму неабходна развіваць яе далей. Развіццё розных форм сельскагаспадарчых кааперацый дапамагае павялічваць вытворчасць, пераўтварае свядомасць селяніна, дапамагае ў будаўніцтве сацыялізма ў вёсцы. Асабліва важным з'яўляецца той факт, што развіваючы кааперацыю ў вёсцы, падрываем і абмяжоўваем існуючую яшчэ ў вёсцы эксплуатацыю.

У Дырэктывах XII Пленума ўказваецца, што развіццё прыватных сялянскіх гаспадарак, павелічэнне іх вытворчасці, побач з развіццём калектыўных гаспадарак з'яўляецца неабходнай умовай у барацьбе за павелічэнне колькасці сельскагаспадарчых прадуктаў. Патрэбы хутчэйшага павелічэння колькасці сельскагаспадарчых прадуктаў вынікаюць з хуткага развіцця прамысловасці, а тым самым з пастаянна павялічваючыхся патрэб гарадскога насельніцтва.

Вельмі важнай у агульнадзяржаўным маштабе з'яўляецца Беластоцкае ваяводства, якое вядома ў краіне пераважна як сельскагаспадарчае. Павелічэнне вытворчасці сельскіх гаспадарак у Беластоцкім ваяводстве звязана таксама з развіццём культуры сельскагаспадарчай працы. Каб даць дзяржаве больш хлеба, мяса, малака, сыравіны і г. д., неабходна пераадолець дзедаўскія метады сельскагаспадарчай працы. У Беластоцкім ваяводстве асабліва важным з'яўляецца павелічэнне колькасці сельскагаспадарчых школ. Ужыванне навуковых метадаў сельскагаспадарчай вытворчасці ў нашай вёсцы дае велізарныя вынікі. Гэта якраз улічваюць дырэктывы XII Пленума ЦК ПАРП.

У. Л

*(Працяг будзе)*



 

